# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Authorized by EUCOM Hqs Civil Affairs Division, 1. January 1951, Nr. UNDP 225
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Circulation: 3500 copies. Sponsor: IRO
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 76 Нядзеля 18 лістапада 1951 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 5


# Вышынскі паліць масты за сабой

Ведзеная Саветамі халодная вайна й выкліканыя ею камплікацыі прымусілі напасьледак заходні сьвет зрабіць апошнія станоўкія крокі дзеля ліквідацыі, а прынамсі злагаджэньня даведзенага да апошняй ступені напружаньня паміж Захадам і Усходам. Гэтым разам Захад пастанавіў дзеіць з поўнай станоўчасьцю, высоўваючы адначасна такія пляны й праекты, якія ні ў чым не паніжалі-б ані годнасьці Савецкага Саюзу ані ставілі-б яго ў горшае ў параўнаньні з заходнімі гаспадарствамі палажэньне. Прыймаючы такую пазыцыю, Захад даваў Маскве ўсе магчымасьці праявіць ейную добрую волю й даказаць на дзеле ўсе тыя слоўныя запэўненьні й пажаданьні, якімі ўвесь час апэравала савецкая прапаганда.

Форумам, на якім мелі быць канчальна выясьненыя ўзаемадачыненьні між Захадам і Усходам і зробленыя апошнія спробы прыйсьці да нейкага паразуменьня, была выбраная цяперашняя генэральная асамблея Задзіночаных Нацыяў, якой цэлы сьвет яшчэ далёка перад ейным пачаткам прыпісваў асабліва важнае значэньне. Ад імені ўсяго дэмакратычнага сьвету выступілі супольна тры вядучыя гаспадарствы: ЗША, Вялікабрытанія й Францыя. Новым зваротным пунктам у іхнай палітыцы было тое, што яны цяпер поўнасьцю адкінулі дасюлешнюю тактыку пасыўнага вычэківаньня на тое, якія крокі прадпрыйме Крэмль, каб потым у собскай абароне адбіваць ягоныя атакі. Захад пастанавіў цяпер ініцыятыву ў халоднай вайне пераняць у собскія рукі, наважыў ня толькі бараніцца, але й наступаць, перайсьці да контрафэнзывы. Але контрафэнзывы рэальнай і разумнай, у якой, ня ў прыклад савецкай кампаніі за мір, ня было-б дэмагагічных нападаў на праціўніка, абліччаных на танны прапагандовы эфэкт, але кіравала-б якой добрая воля й узаемныя ўступкі за цану такой-жа самай добрай волі ўсходняга партнэра.

### Заходні праект сусьветнай бясьпечнасьці

Як выходны пункт у імкненьнях да зьмяншэньня небясьпекі новай сусьветнай вайны заходнія гаспадарствы высунулі праект зрэдукаваньня й далейшага абмежаваньня збраеньняў. Гэты праект, зь вялікім нецярпеньнем чаканы ўсімі дэлегацыямі ЗН, быў афіцыяльна прадстаўлены Задзіночанымі Штатамі, Вялікабрытаніяй і Францыяй 7 лістапада пленарнаму паседжаньню ЗН, пасьля яго адбыліся прамовы міністраў замежных справаў ЗША Эчысона перад пленумам ЗН і прэзыдэнта Трумана цераз радыё, у якіх было шырака зінтэрпрэтаванае становішча заходніх гаспадарстваў, занятае імі ў праекце, і быў заклікан Савецкі Саюз даказаць на дзеле свае мірные намеры.

Заходні плян ліквідацыі міжнароднага напружаньня складаўся зь сямі пунктаў, важнейшыя дамаганьні якіх наступныя:

**Тры заходнія гаспадарствы, пакуль будзе трываць цяперашняе напружаньне, будуць уважаць за свой найвялікшы абавязак павялічаць і ў далейшым сваю абаронную сілу, неабходную для собскае бясьпечнасьці й бясьпечнасьці ўсяго сьвету, без каторай ня можа быць міру. Але гэтыя гаспадарствы ўважаюць, што загроза вайны зьменшылася-б і павялічылася-б бясьпечнасьць для ўсіх народаў, калі-б усе народы згадзіліся на супольную кантролю й агранічэньне іхных збройных сілаў, у тым ліку на палавіну мілітарных фармацыяў бясьпечнасьці й паліцыйных аддзелаў, і ўзбраеньняў, уключаючы таксама й атамную зброю. Гэтая рэдукцыя й агранічэньне збраеньняў мае адносіцца як да ўжо дасягнутага ўзроўня, гэтак і да збраеньняў у будучыні. Пры гэтым абмежаваньне збраеньняў павінна быць роўнае для ўсіх гаспадарстваў прапарцыянальна да агульнай колькасьці іхнага насельніцтва, прадукцыйных магчымасьцяў ці іншых крытэрыяў, якія-б выключалі перавагу адных гаспадарстваў коштам другіх. Дзеля аслабленьня ўражаньня, што кантроля й улік збраеньняў маглі-б пасягаць на сувэрэннасьць некаторых гаспадарстваў, чаго асабліва баяцца Саветы, прапануецца распачаць гэтую кантролю ад менш тайных родаў зброі й паступова пераходзіць да наступных.**

Кантроля й абмежаваньне збраеньняў мусяць аднак быць папярэджаныя двумя наступнымі мерапрыемствамі: Праграма раззбраеньняў ня можа ўвайсьці ў сілу да часу, пакуль збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў мусяць у Карэі змагацца з агрэсыяй. Усе палітычныя канфлікты, што падзялілі сьвет, мусяць быць таксама разьвязаныя адначасна з прыняцьцем праграмы раззбраеньняў.

Заходнія магутнасьці палажылі вялікі націск на тое, што яны заклікаюць да далёкайдучага раззбраеньня не із страху перад Савецкім Саюзам, але дзеля ўнікненьня новай зьнішчальнай вайны, небясьпечнай ў роўнай меры й для Саветаў. Гэтак міністар Эчысон у сваей прамове заявіў, што Захад зьяўляецца гатовым «выйграць бясьпечнасьць сьвету шляхам сваей пераважаючай мілітарнай сілы». І далей: «Савецкая палітыка прымусіла вольныя народы — заявіў Эчысон — павялічыць стан іхнага ўзбраеньня да граніцаў неабходнасьці дзеля собскае абароны. Аднак мы ня хочам ніякіх перагонак у збраеньнях. Мы гатовыя зрабіць усё, што ляжыць у нашых магчымасьцях, каб загарантаваць нашую бясьпечнасьць. Але мы таксама ня менш гатовыя, — як мы гэтаму ня раз давалі доказы — не прапусьціць ніводнай магчымасьці, якая магла-б прывесьці да рэдукцыі збраеньняў».

Прэзыдэнт Труман паказаў у сваей радыяпрамове на яшчэ адзін мамэнт, які прамаўляе за канечнасьцю далёка йдучых раззбраеньняў для цэлага сьвету. Ён напомніў, што як Захад, гэтак і Усход у ўзаемным перагоне збраеньняў выкідаюць на гэта вялізарныя сумы, што кладзе непамерныя цяжары на насельніцтва й спрычыняецца да ягонае галіты, ў першую чаргу да галіты насельніцтва Савецкага Саюзу. Прэзыдэнт ЗША выразна зацеміў, што ў выпадку прыняцьця праграмы раззбраеньняў, **«мы ў рамах Задзіночаных Нацыяў маглі-б распачаць іншую кампанію, якой мы ўсе жадаем — змаганьне супраць недастаткаў і людзкой галіты. Мы маглі-б распачаць у нашым пакаленьні найвыдатнейшы пэрыяд у гісторыі сусьветнага прагрэсу».**

### А Вышынскі адказаў цынічным сьмехам

Праект раззбраеньняў, унесены Захадам як першы крок, што мог-бы адхіліць загрозу вайны й расчысціць міжнародную атмасфэру, быў сканструаваны так, што выключаў усякія заднія намеры, а быў накіраваны шляхам супольных і роўных для ўсіх партнэраў уступак да дасягненьня тых мэтаў, за якія ў сваей прапагандзе ўвесь час ваюе Савецкі Саюз — да захаваньня міру. І калі-б савецкая кампанія за мір апіралася на добрай волі й шчырасьці ейных ініцыятараў, дык сяньня Саветам не аставалася-б нічога іншага, як ахвотна прыстаць на заходні плян і даказаць на дзеле свае мірныя намеры.

Хаця ў шчырасьць гэтых намераў ніхто ўжо на Захадзе ня верыў і палітычныя дзейнікі Захаду былі згары прыгатаваныя на тое, што Саветы гэты плян, як і ўсякія пляны, прапанаваныя Захадам, адкінуць, уважалі аднак, што Вышынскі будзе ім моцна заскочаны й пастаўлены ў нявыгаднае палажэньне. Таму чакалі, што перад тым, як яго адкінуць, ён будзе змушаны аналізаваць усе ягоныя пункты, высоўваць контраргумэнты, вышуківаць у ім розныя скрытыя намеры, адным словам будзе старацца даказаць ягоную няпрыгоднасьць.

Тымчасам Вышынскі зрабіў шмат прасьцей. Ён, не ўваходзячы ў ніякую дыскусыю над праектам, у сваей прамове, сказанай 8 лістапада на пленарным паседжаньні ЗН, толькі цынічна расьсьмяяўся. У той час, калі мільёны яшчэ наіўных людзей заходняга сьвету чакалі зь нецярпеньнем слова Вышынскага, думаючы знайсьці ў ім іскру надзеі й успакаеньня перад навіслай загрозай новага сусьветнага пажару, Вышынскі, топчачы пачуцьці гэтых мільё-

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Збройныя сілы Атлянтычнага Пакту

Начальнік штабу галоўнакамандаваньня збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту амэрыканскі генэрал Грынтэр нядаўна падаў заходняй прэсе справаздачу з десюлешняй разбудовы й далейшага плянаваньня Атлянтычных збройных сілаў Эўропы.

Галоўнакамандуючы саюзнай арміяй падчас апошняй вайны генэрал Айзэнгаўэр толькі на пачатку бягучага году абняў сваё новае становішча — галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту. Яшчэ ў студзені абаронныя пляны Эўропы выдаваліся толькі ілюзыяй. Тады існавала яшчэ толькі праблема стварыць адзіную й згарманізаваную збройную сілу з розных эўрапэйскіх народаў, што жывуць на захад ад зялезнай заслоны. Хадзіла тады аб стварэньне такой збройнай сілы, якая служыла-б адзінай мэце — абароне традыцыйнае вольнасьці, якую стварыла Эўропа на працягу мінулых стагодзьдзяў і якую пасьпяхова абараняла перад рознымі загрозамі.

І вось за гэты кароткі час эўрапэйская армія Атлянтычнага пакту сталася дакананым фактам. Гэта сталася дзякуючы арганізацыйнаму таленту галоўнакамандуючага ген. Айзэнгаўэра, ініцыятыўнасьці шэфа штабу ген. Грынтэра й выдатнаму супрацоўніцтву брытанцаў, французаў, скандынаваў, бэльгійцаў, галяндцаў і іншых.

Арганізацыя збройных сілаў Атлянтычнага пакту складаецца з трох частак: паўночная Эўропа, сярэдняя Эўропа й паўдзённая Эўропа. Група «Саюзныя збройныя сілы паўночнай Эўропы» знаходзіцца пад камандаваньнем брытанскага адмірала Брайнда. Яна складаецца із збройных сілаў Нарвэгіі — часова ў сіле аднае брыгады — пад камандаваньнем генэрал-лейтэнанта Ганстэна, саюзных збройных сілаў Даніі пад камандаваньнем генэрал-лейтэнанта Молера, саюзных лётніцкіх сілаў паўночнай Эўропы пад камандаваньнем генэрал-маёра Тайлера, як і з саюзнай ваеннай флёты паўночнай Эўропы ўключна з часьцю брытанскае ваеннае флёты пад камандаваньнем адмірала Брайнда.

Група «Саюзныя збройныя сілы сярэдняе Эвропы» дзеліцца на наземныя збройныя сілы пад камандаваньнем францускага генэрала Жуэна, лётніцкія збройныя сілы пад камандаваньнем амэрыканскага генэрал-лейтэнанта Норштата і ваеннае флёты пад камандаваньнем віцэ-адмірала Жожарда. Усе наземныя збройныя сілы сярэдняй Эўропы складаюцца з 10 францускіх, 4 брытанскіх і 6 амэрыканскіх дывізыяў.

Саюзныя збройныя сілы паўдзённай Эўропы падлягаюць камандаваньню амэрыканскага адмірала Кэрнэя. Сюды належаць наземныя збройныя сілы пад камандаваньнем генэрал-лейтэнанта Кастыльёні. Іхнае ядро твораць тры з палавінаю італьянскія дывізыі. Згодна новых паведамленьняў зь Італіі італьянская армія мае быць да канца гэтага году ўзмоцненая да 6 дывізыяў. Саюзнае лётніцтва паўдзённай Эўропы знаходзіцца пад камандаваньнем генэрал-маёра Шлятэра, а адмірал Кэрнэй камандуе саюзнай ваеннай флётай паўдзённай Эўропы.

Галоўная гаспода збройных сілаў Атлянтычнага пакту знаходзіцца ў маленькім гарадку Марн-ля-Кокэт, палажаным недалёка Парыжа, у якой працуюць над арганізацыяй будучых збройных сілаў Эўропы ваенныя й цывільныя асобы дванаццаці нацыяў. Гэта ёсьць малы, але ўдала дабраны штаб, што знаходзіцца пад асабліва здольнай камандай. Францускія морскія лётнікі, амэрыканскія й брытанскія канцылярскія працаўнікі й бэльгійскія афіцэры сядзяць у вадным пакоі разам з афіцэрамі й чыноўнікамі Люксэмбургу й другіх краінаў. Сяньня галоўны штаб збройных сілаў Атлянтычнага пакту зь ягонымі некалькімі сотнямі афіцэраў зьяўляецца адносна малой арганізацыяй, калі ўзяць пад увагу, што вярхоўнае галоўнакамандаваньне саюзных збройных сілаў у Эўропе ў канцы другой сусьветнай вайны мела штаб, зложаны з 1200 афіцэраў. Аднак штабны пэрсанал збройных сілаў Атлянтычнага пакту правёў дагэтуль бліскучую работу.

Дзякуючы гэтай згарманізаванай рабоце Атлянтычныя збройныя сілы складаюца сяньня з 23 дывізыяў. Як падае галоўная гаспода, да канца бягучага году яны павялічацца на 5 далейшых дывізыяў. Незалежна ад гэтага збройныя сілы Атлянтычнага пакту выдатна яшчэ ўзмоцняцца ў сувязі з прыступленьнем да пакту Грэцыі й Турэччыны.

# Абаронны пакт Блізкага Усходу

ЗША, Вялікабрытанія, Францыя й Турэччына 10 лістапада ў супольнай заяве падалі да ведама аб стварэньні саюзнага блізкаўсходняга камандаваньня й заклікалі гаспадарствы Блізкага Усходу да прылучэньня да пакту.

Рэакцыя гаспадарстваў Блізкага Усходу, запрошаных да ўдзелу ў пакце, не зьяўляецца адназгоднай. Нарады, што ў гэтай справе ад даўжэйшага часу між імі адбываюцца, якія маюць на мэце ўзгодніць іхнае становішча, ня далі дагэтуль ніякіх вынікаў. Заплянаванае паседжаньне прадстаўнікоў Арабскае Лігі ў Парыжы было 10 лістапада неспадзявана адложанае на неазначаны час. Падчас таго, калі генэральны сакратар Арабскай Лігі Азам Паша поўнасьцю адкінуў ініцыятыву Захаду, іракскі прэм'ер Нуры Саід намагаецца ў Парыжы здабыць сваіх калегаў на карысьць пакту. Таксама становішча Ярданіі й Лібанону ў дачыненьні да заплянаванага пакту ёсьць пазытыўнае, затое ў Сырыі на грунтце войстрай апазыцыі да пакту народнай партыі дайшло да ўрадавага крызысу — дымісыі ўраду. Эгіпская дэлегацыя ў ЗН у Парыжы заявіла, што Эгіпт прыступіць да абароннага пакту Блізскага Усходу толькі тады, калі пакт гэты будзе абыймаць выключна арабскія гаспадарствы.

Генэральны сакратар Арабскай Лігі Азам Паша заявіў, што гэткім спосабам ад народаў Блізкага Усходу «ня можна вымусіць іхнае собскае абароны». Затое поўную гатоўнасьць да гэтае абароны можна здабыць толькі «шляхам задаваленьня й забясьпячэньня нацыянальных імкненьняў народаў Блізкага Усходу».

Урады Аўстраліі, Новай Зэляндыі й Паўдзённай Афрыкі прывіталі паўстаньне абароннага пакту Блізкага Усходу й запэўнілі свой удзел у ім.

Блізкаўсходні пакт будзе з арганізацыйнага гледзішча «інтэгральна саюзным», а не «нацыянальным» камандаваньнем. Вайсковыя аддзелы Блізкаўсходняга камандаваньня будуць падпарадкаваныя супольнаму галоўнакамандуючаму, які будзе праўдападобна вызначаны Турэччынай, так як апошняя зьяўляецца ключавой сілай у заплянаваным пакце. Пры гэтым удзельнікі пакту не патрабуюць у мірны час перадаваць сваіх збройных сілаў пад загады галоўнакамандуючага пакту, галоўным заданьнем якога ёсьць плянаваньне й кіраваньне апэрацыямі на выпадак вайны.

# КАНЕЦ МАНАПОЛЮ АТАМНАЕ БОМБЫ

Ад таго часу, калі на Японію была скінутая першая атамная бомба, прайшло ўжо больш як шэсьць гадоў. За гэты час амэрыканская замежная палітыка разьвівалася пад знакам выключнага манаполю на атамную бомбу, якая давала Амэрыцы абсалютную мілітарную перавагу над Савецкім Саюзам. Амэрыканцы былі ўпэўненыя, што Саветы новай сусьветнай вайны не распачнуць, бо ў праціўным выпадку вынікі яе былі-б для бальшавікоў фатальныя: на працягу некалькіх дзён маглі-б быць поўнасьцю зьнішчаныя галоўныя прамысловыя цэнтры й ваенныя аб'екты Савецкага Саюзу, а таксама спараліжаваны ўвесь чыгуначны транспарт, які, дзякуючы вялізарным прасторам СССР, мае першараднае значэньне. Іншымі словамі Саветы, пасьля некалькіх атамных атакаў, ня толькі ня былі-б здольнымі да наступу, але й да абароны.

Амэрыканцы, усьвядамляючы сваю мілітарную перавагу дзякуючы выключнаму манаполю на атамную бомбу, зусім не дацэньвалі іншых мамэнтаў, ня менш важных для вядзеньня вайны — мамэнтаў ідэалягічных. У той час, калі Саветы побач зь мілітарным прыгатаваньнем да вайны не занядбоўвалі, а ў некаторых выпадках давалі навет перавагу афэнзыве ідэалягічнай, амэрыканцы на гэтую так важную галіну амаль што ніякае не зьвярталі ўвагі. Саветы змаглі за гэты час разбудаваць у цэлым сьвеце свае пятыя калёны, што на выпадак вайны аддалі-б ім вялізарныя ўслугі, арганізуючы дывэрсыю, сабатажы й шпіянаж, да нябывалых разьмераў узмоцнілі сваю прапаганду, якая ўжо сяньня паралізуе ў вялікай меры абароназдольнасьць Захаду. Заходні сьвет ня толькі не падумаў аб тым, каб стварыць на тэрыторыі СССР такія-ж самыя пятыя калёны, але навет не аказаў ніякай помачы, ня выявіў найменшага зацікаўленьня супрацьбальшавіцкім збройным змаганьнем, што, на гледзячы на няроўныя сілы й адсутнасьць тэхнічнае помачы звонку, да апошняга часу ня спыняецца ўва ўсіх краінах за зялезнай заслонай.

Аднак непахісная дагэтуль вера амэрыканцаў у сваю тэхнічную перавагу над Саветамі апошнім часам заламалася. Нядаўна адбыліся на савецкай тэрыторыі два выбухі запраўднае атамнае бомбы і, як пасьля гэтага афіцыйна заявіў Сталін і пацьвердзіў прэзыдэнт Труман, манаполь Амэрыкі на атамную бомбу ўжо скончыўся, бо Саветы яе маюць таксама.

Таму сяньня ўжо нельга гаварыць аб якаснай мілітарнай перавазе Захаду над Усходам; можна гаварыць толькі аб перавазе колькаснай. А перавага колькасная, як ведаем, зьяўляецца паняцьцем толькі часовым і вельмі адносным. Бо каб зьнішчыць жыцьцёвыя артэрыі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі патрэбная значна меншая колькасьць атамных бомбаў, чымсьці для зьнішчэньня іх у Савецкім Саюзе.

Звычайная лёгіка гаворыць за тым, што ў сувязі із стратаю выключнага манаполю на атамную бомбу Амэрыка сяньня стаіць перад канечнасьцю дасягненьня іншае перавагі над Савецкім Саюзам, якая забясьпечыла-б ейную бясспрэчную перамогу на выпадак вайны. Яна зьяўляецца сяньня змушанай, апрача разбудовы сваей тэхнічнай сілы, ня меншую зьвяртаць увагу на справы ідэалягічныя — як найшырэй выкарыстаць для сваіх ваенных мэтаў паняволеныя бальшавізмам народы, якія ня толькі маглі-б зраўнаважыць дзеяньне камуністычных пятых калёнаў на Захадзе, але навет былі-б вырашальнай сілай, якая задэцыдавала-б аб канчальным выніку вайны.

Каб здабыць для сябе свайго прыроднага саюзьніка — паняволеныя народы, недастаткова ставіць перад імі толькі нэгатыўныя мэты — зьнішчэньне бальшавізму, не даючы адначасна ніякіх пэрспэктываў пазытыўных. Паняволеныя бальшавізмам народы будуць прадстаўляць толькі тады паважную й пэўную сілу, калі яны будуць ведаць не толькі, супраць чаго яны змагаюцца, але й за што змагаюцца. І вось гэтае

(Заканчэньне на 3 балоне)

# СУСТРЭЧА ЗЬ ЛЯГЕРАМІ

(Заканчэньне, глядзі Но. 75)

### ЛЮДЗІ У ТУМАНЕ

Даяждаем да Ульму. У даліне паяўляецца ймгла й, як-бы хтось у міску чыстай вады даліваў малака, пачынае згушчвацца. Мінаем Ульм і зьяжджаем з аўтастрады на Дорнштат. Там ёсьць лягер — штосьці ў родзе прытулішча для старых. Яшчэ раз зьяжджаем з шасы на вузенькую дарогу. Па дарозе гэтай снуюць сюды й туды старычкі, падпіраючыся кійкамі. Пытаем у ваднаго зь іх пра дарогу. Аказваецца, што ен жыхар патрэбнага нам лягеру. Забіраем яго ў самаход. Ён бяз прынукаў і заахвочваньня пачынае жывую гутарку па ўкраінску. Машына напаўняецца моцным запахам высокапрацэнтовага, хаця нізкаякаснага сьпірту, аж доктар дыскрэтна адкручвае ўніз шыбу. Уваходзім у лягер, які можна уважаць за шчыт камфорту й выгады. Сярод дрэў абшырнага прыгожага парку стаяць чыстыя, белыя аднапавярховыя дамкі. Пад дрэвамі выгодныя лавачкі, вялікі плывальны басэйн, хаця цяпер без вады, градкі даквітаючых астраў ці хрызантэмаў.

Нічога няма тут лягернага, дзікага, жудкага, палохаючага... Аднака-ж адчуваецца нешта сумнае, безнадзейнае, чаму ў першую хвіліну трудна даць назву, угадаць прычыну. Асеньні вечар разьвешвае на дрэвах парку зрэбныя дзяругі бруднай імглы, а паміж дрэў перасоўваюцца згорбленыя фігуры людзей, перасоўваюцца паволі, як-бы шукаючы пуціны або ня маючы куды сьпяшацца. Вецер гоніць ім пад ногі сухое, іржавае лісьцё, якое шапаціць нейкае сумнае «мэмэнто». Схіленыя, абапёртыя на кійкох людзі, сухое лісьцё, размакаючыя ў сьцюдзёнай імгле краскі, голыя дрэвы — сымбалі чагосьці аджытага, пераджытага, заміраючага...

Уваходзім у вадзін дом. Чысты ясны калідор высланы тоўстымі мяккімі матамі, пакоікі, у якіх жывуць па дзьве асобы, таксама чыстыя, цёплыя, выгодныя, але ізноў-жа ня робяць уражаньня прытульнасьці.

У сьвятліцы людна, хаця не зашумна. Ізноў рознакалёрная мазаіка твараў і рас. Іграюць у прэфэранса, шашкі, шахматы, чытаюць газэты, пераглядаюць часапісы, з балонак якіх часта прыманкава ўсьміхаецца прыгожы твар некамплетна адзетай артысткі. Жыхары ахвотна гутараць і расказваюць пра ўмовы жыцьця. Наагул задаволеныя. Цёпла, чыста, ежа добрая, навет даюць па 6 марак у месяц. Праўда, шэсьць марак — гэта досыць скромная вячэра ў горадзе, але й гэта добра. Некаторыя з узварушэньнем паказваюць нам карткі з павіншаваньнямі, якія атрымалі ад адміністрацыі лягеру ў дзень нараджэньня: «З нагоды сканчэньня 83 (ці 79) гадоў жадаем...» і г. д. Годны пахвалы звычай: адміністрацыя лягеру ведае чысло нараджэньня кажнага жыхара й ніколі не забудзецца, нікога не паміне... Салензанты шчыра ўзрушаныя й цешацца: хоць хтось пра іх помніць...

Даведаўшыся, што той, каго хацелі ўбачыць, ёсьць у сталоўцы, ідзём туды. Тут таксама людна й даволі шумна, бо тут-жа й шынок. Сядаем з намерам штось зьесьці й цераз хвіліну прысядае да нас некалькі старычкоў. У кажнага мутны ўзрок, ад кажнага нясець хмелем і адзін праз другога на розных мовах пачынаюць высказвацца. Найбольш клопату з адным сівенькім, як галубок, дзядком, які кружыць каля стала й прадстаўляецца кажнаму па некалькі разоў, кажнага з нас ахвотна бярэ за сына. Частая ікаўка перарывае яго выліўныя прамовы, якіх і бяз гэтага немагчыма зразумець, бо ўсё мяшаецца бяз сэнсу: Клеапатра, Мэссаліна, Кацярына Вялікая няма ведама чаму пераплятаюцца з «цьверскім кацапам», «кукурыку» й «дубінашкай». А найчасьцей паўтараецца: «Молчашке — чашку». Рэч зразумелая, суплікант не атрымоўвае ані напарстка. Зьнеахвочаны йдзе высказваць свае захапленьні кэльнэрцы, якая бесцэрэмонна гоніць яго вон, — і ён ізноў вяртаецца да нас...

Уражаньне да таго прыкрае, што, ня скончыўшы есьці, выходзім. Пытаем у знаёмага, за што гэтыя людзі ўпіваюцца. Аказваецца, што скульсьці дастаюць дэнатурат і лякероўку.

Паміж дрэў цікаецца панура змрок. Робіца нявымоўна сумна...

### НА ДНЕ ПЕКЛА

Ня бачачы, што вечарэе, пастанаўляем ехаць у Ульм. Там, кажуць, убачым праўдзівы лягер. Што больш, кажуць, што ў гэным лягеры жывуць дзьве дзяўчынкі — беларускі, падобна надзвычайныя музыканткі.

Паволі праціскаемся праз туман, мінаем мост над «блакітным Дунаем», які цяпер бурлівы й суровы. За Новым Ульмам доўга блудзім паміж разваленымі будынкамі, кучамі грузу й іржавага зялеза. Напасьледак знаходзім нейкі чорны, падзюраўлены бомбамі будынак былай хвабрыкі, дзе знаходзіца «Offenhausen, Grenzlager 22, Neu Ulm». Няма магчымасьці цераз кучы сьмяцьця, грузу й ямы даехаць да лягеру, дык пакідаем машыну й ідзём, што крок улазячы ў балота. Перад будынкам стадка абдзёртых брудных дзяцей — ізноў-жа розных рас. Твары іх паважныя, суровыя, вочы сумныя. Некаторыя ізь зьдзіўленьнем глядзяць на нас і асьцярожна стараюцца трымацца на пэўнай адлегласьці; другія дзяруцца, як пятухі, вымяняючы між сабой аплявухі й цягаючыся за валасы. Па засыпаных сьмяцьцём сьлізкіх сходах уваходзім у вялізную галю, скуль надвор да нас даходзіў шум, як-бы з вульля. Абраз, які бачым перад сабой, не даецца апісаць. Можа пяро Дантэ, апісваючага пекла, справілася-б з гэтым.

Некалькі малых, запыленых, высока завешаных лямпачак дарэмна хацелі-б сваім слабым блескам разрэдзіць змрок, туман і дым, што праціскаюцца праз дзіркі ў страсе й выбітыя шыбы. Уздоўж пасярод галі — вузкі праход, а абапал — пазавешваныя бруднымі дзяругамі, мяшкамі, парванымі коўдрамі памешканьні для сем'яў. Ніякіх сьценаў хоць-бы зь ценкіх дошчак ці бляхі.

Тут ужо ня толькі сусед ведае, што ў суседкі ёсьць пад каптаном, але таксама ведае, што няма нічога. У праходзе, якога нельга назваць калідорам, таўкуцца нейкія постаці, поўзаюць ледзь ня голыя дзеці. За анучнымі сьценамі чутны лаянкі, сваркі, праклядьці. То там, то сям чуваць, як нехта разьяжджае ўздоўж і ўпоперак па «матушцы Расеі».

Пытаем, дзе знайсьці гэных беларускіх дзяўчатак, якія граюць на гармоніках. Хтось паказвае нам перагародку, за якой яны жывуць. На шчасьце застаём іх «дома». Бацькі іх няма ў лягеры й апякуецца імі нейкая старэйшая жанчына. «Памешканьне» беднае, няпрытульнае: двухпавярховыя нары — імітацыя ложка, без пасьцелі, два столкі, штось у родзе стала — цэлае ўмэбляваньне. Два маладыя каткі, што весела гуляюць, яркі кантраст з панурай атмасфэрай.

Фантына й Галіна Сойкі — дзьве сястры. Аднэй 13 гадоў, другой — 12. Радзіліся ў Замошшы. Маткі ня маюць, а бацька працуе ў Зальцбургу. Вучацца ў нямецкай пачаткавай школе й ахвотна паказваюць нам школьныя пасьветчаньні, зь якіх бачым, што вучацца добра. Гутараць пабеларуску, хаця ўмешваюць нямецкія, украінскія, а навет францускія словы. Твары прыгожыя, але паважныя, вочы сумныя.

Просім, каб зайгралі. Ахвотна згаджаюцца, але баяцца, бо суседзі ня любяць музыкі й робяць авантуры, а навет — часам б'юць. У канцы выцягваюць вялізную кучу нотаў і інструмэнты: акордэон і гармонік. За пару хвілін у жудкі, халодны змрок, у ліпкую імглу, у няпрыязны шум рудэры льлюцца чыстыя стройныя тоны вальцаў Штраўса. Пасьля — «На сопках Манджурыі», «Тоска по родине», а ў канцы разгульныя «Веселые ребята», — вырываюцца з гармонікаў і, як сьлёзы ў пустынным пяску, як пэрлы ў глыбокім іхму — зьнікаюць у няпрытульнай пустцы — бяз рэха... Арфэй улагаджваў музыкай дзікіх зьвяроў, але на лютасьць жыцьця няма рады. Чорныя, гарачыя й сумныя вочы дзяўчатак з за вялікіх гармонікаў упіваюцца ў пункцікі нотаў, вырываюць заклятыя ў іх тайніцы, ператвараюць у найчысьцейшыя пэрлы гукаў, а гэтыя пэрлы сыпляцца, як у балота, у жудкую атмасфэру й гінуць.

Робіцца позна й трэба вяртацца. Пішу запіску да бацькі дзяўчат, каб згадзіўся аддаць іх на выхаваньне ў інтэрнат у Бэльгіі. Можа згодзіцца...

Паваротная дарога. Туман густы, як кісель, моцныя рэфлектары напрасна ўпіваюцца ў яго й прабуюць прабіць. Нахіляюся над рулём, вочы чуць ня вырываюцца з арбітаў, вылятаючы ўперад. Перад машынай перавальваецца нейкі хаос. Бяру лінейку аўтастрады паміж колаў і пхнуся на шчасьце.

Каля поўначы Мюнхэн прывітаў нас вясёлымі пералівамі нэонаў. У сьветлым, раскошным салёне гатэлю задаволеныя з жыцьця й добрай вячэры людзі развальваюцца ў мяккіх фатэлях.

Такі чуюся змучаны, іду ў пакой, хацеў-бы легчы заснуць... Такая чыстая, белая пасьцель! Раптам жудзь агортвае мяне, а ў душу глядзяць чорныя, сумныя вочы Фантыны й Галіны.

Пішу. На горача, пакуль заўтрашнія клопаты й шум не заглушаць, не затруць уражаньне.

Хацеў-бы, каб гэта, што пішу, сталася крыкам, які-б пранікнуў у найглыбейшыя закуткі душаў. Каб гэты крык абудзіў рэха ў душах тых, што ў Амэрыцы разглядаюцца за дамамі, лядоўкамі, самаходамі, тых, што ў Ангельшчыне перад собскімі фаерплейсамі мрояць і засынаюць, ці ў смокінгах і балёвых вопратках сьлізгаюцца па паркетах. І тых у Канадзе, Аргентыне й іншых краінах, дзе ня ўжываецца абразьлівая назва «аўслендэр» і няма лягераў, як у «Offenhausen, Grenzlager»... Каб чорныя, палаючыя, сумныя вочы з за гармонікаў заглядалі ім у сэрцы й будзілі іх, не давалі ім заснуць!..

**28. 10. 1951, Мюнхэн.**

**Падарожны**

# Да Беларускага Грамадзянства

**ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!**

Ня раз ужо гаварылася ды пісалася аб патрэбе насьпяваньня грамафонных плітак зь беларускімі песьнямі як дзеля карыстаньня самое эміграцыі, гэтак і дзеля прапагаваньня нашае нацыянальнае справы між чужынцамі.

Нашая беларуская, а асабліва народная песьня — гэта ня толькі наш пэрсанальны скарб, — гэта таксама паказьнік глыбіні душы беларускага народу, паказьнік ягонае самабытнасьці.

Умовы эміграцыі не зьяўляюцца вельмі спрыяльнымі для гэтакага мерапрыемства. Тады, калі існавалі ў нас выдатныя хоры ды ансамблі, ня было тэхнічных ці матарыяльных магчымасьцяў для насьпяваньня некаторай колькасьці нашых песьняў на грамафонныя пліткі. Цяпер-жа эміграцыя наша расьцярушаная па розных краінах сьвету, і цяжка знайсьці месца, дзе-б хапала фаховых сілаў ды матарыялу дзеля зарганізаваньня хору. У сучасны мамэнт можа ў найлепшых умовах дзеля гэтага знаходзіцца студэнцкая група ў Лювэне, дзе ўжо больш як год працуе ды годна рэпрэзэнтуе Беларусь Студэнцкі Ансамбль Беларускае Народнае Песьні й Танцу, зарганізаваны й кіраваны кампазытарам праф. Міколам Равенскім.

Вось гэты ансамбль і ўзяўся за нялёгкае заданые — насьпяваць яшчэ ў гэтым годзе грамафонныя пліткі. Заданьне нялёгкае, бо ягонае зрэалізаваньне патрабуе даволі вялікіх грашовых сумаў. Аднак пры падтрыманьні нашых суродзічаў заданьне гэтае ёсьць поўнасьцю выканальным. Дзеля гэтага мы пастанавілі правесьці падпіску на камплекты плітак між беларусамі ўва ўсіх краінах расьсяленьня нашае эміграцыі. Камплект гэткі, на пачатак 6 плітак, каштаваў-бы 400 бэль. франкаў (8 амэр. даляраў) безь перасылкі.

Ад эфэктоўнасьці падпіскі й будзе залежыць зьяўленьне першых плітак. Гэтак сама ахвяры ды пазыкі маглі-б у вялікай меры прысьпешыць выкананьне нашага пляну.

Мы зварочваемся да ўсіх грамадзкіх арганізацыяў і да кажнага беларуса паасобку як найхутчэй правесьці падпіску ці падпісацца на камплект плітак.

Грошы просім прысылаць на адрас:

W. Butrymovic,
19, Place Hoover,
Louvain, Belgique.

Па дадатковыя інфармацыі зварочвацца да сп. У. Цьвіркі (адрас той самы).

Няхай-жа ня будзе ніводнага беларуса, які-б не падпісаўся на камплект грамафонных плітак.

**Адміністрацыя Ансамблю**

# З жыцьця Беларусаў у Аргентыне

Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне зладзіла 27 кастрычніка ў Буэнос Айрэс беларускі рэпрэзэнтацыйны вечар, які, як і вечарына, што адбылася 20 чэрвеня, прайшоў зь вялікім пасьпехам.

Вечар адбыўся ў Чэхаславацкім салёне. На ягоную праграму зложыліся танцы пад гукі прыгожай аркестры й канцэрт беларускіх песьняў і танцаў. На асаблівую ўвагу заслугоўвалі выступленьні балетмайстры Уладзімера Катовіча, які із сваей партнэркай пратанцаваў некалькі беларускіх народных і аргентынскіх танцаў, а таксама выкананьне некалькіх беларускіх народных песьняў салісткай Мальвінай Бычкоўскай.

Ня можна не адцеміць узорнага парадку ў арганізацыі гэтак вялікага вечару, як і адпаведна праведзенай перад гэтым прапаганды. Дзеля гэтай мэты ЗБА прыгатавала вялікія афішы, якія былі густа расклееныя ў той частцы гораду, дзе пражывае найбольшая колькасьць беларусаў.

**К. Мацкевіч**

### ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

На Выдавецкі Фонд «Бацькаўшчыны» зложылі наступныя Беларусы з ЗША: В. Стома — 1,50 дал., Ф. Родзька — 2,50 дал., М. Латушкін — 3,50 дал., В. Кажан — 2 дал. Разам — **8,50 даляраў.**

Усім ахвярадаўцам Выдавецтва «Бацькаўшчыны» шчыра дзякуе й заклікае іншых пайсьці за іхным прыкладам.

На Выдавецкі Фонд «Бацькаўшчыны» атрымалі наступныя ахвяры:

1. Ад сп. А. Міцкевіча — 200 бэльгійскіх франкаў.
2. Ад сп. Катовіча — 100 бэльгійскіх франкаў.
3. Ад беларусаў з Ангельшчыны — 10 фунтаў (1 270 бэль. франкаў).

Усім ахвярадаўцам шчырае беларускае дзякуй.

# Вышынскі паліць масты за сабой

(Заканчэньне)

наў і ўпадаючы ў тон, непрактыкаваны яшчэ дагэтуль у міжнародных выступленьнях, заявіў даслоўна наступнае:

«Я сяньня ўночы амаль зусім ня мог заснуць, бо ўсьцяж мусіў толькі сьмяяцца над заявай трох заходніх гаспадарстваў і над прамовай Трумана. Усьцяж я прабуджаўся й сьмяяўся ўзноў. Навет цяпер, на гэтай трыбуне ледзьве магу я паўстрымаць свой сьмех. Гара нарадзіла мыш, якая ў дадатку была мёртвая».

Гэткі-ж быў стыль і ўсей араганцкай прамовы Вышынскага. Неадлучным стылёвым арсэналам усіх ягоных міжнародных выступленьняў былі заўсёды пераходзячыя межы ўсякае прызваітасьці лаянкі й пагрозы, аднак ніводная зь ягоных дасюлешніх прамоваў ня мела ў сабе столькі азнакаў цынізму й пагарды, што прамова апошняя.

Зусім ня спыняючыся над праектам трох заходніх гаспадарстваў, Вышынскі поўнасьцю яго адкінуў і высунуў свой контрпраект, які складаўся з наступных чатырох пунктаў:

**1. Сьцьверджаньне, што Атлянтычны пакт і стварэньне амэрыканскіх абаронных пунктаў паза межамі ЗША зьяўляюцца супярэчнымі з прынцыпамі Карты ЗН.**

**2. Запатрабаваньне ад усіх гаспадарстваў, што бяруць удзел у Карэйскай вайне, спыніць усякія варожыя дзеяньні, заключыць перамір'е й на працягу 10 дзён адцягнуць свае войскі на 38 паралелю. Усе замежныя збройныя сілы ўключна зь кітайскімі «дабраахвотнікамі» павінны на працягу трох месяцаў пакінуць карэйскую тэрыторыю.**

**3. Скліканьне не пазьней 1 чэрвеня 1952 г. сусьветнай канфэрэнцыі, якая-б занялася справай запраўднага раззбраеньня.**

**4. Заключэньне пакту міру пяці гаспадарстваў уключна з камуністычным Кітаем з тым, каб усе жадаючыя міру народы прыступілі да пакту.**

### Вышынскага Запраўдная цана аргумэнтаў

Ня трэба быць прафэсыянальным палітыкам, каб пабачыць, што хаваецца пад савецкімі аргумэнтамі.

Заходні плян носіць назву «Рэгуляцыя, абмежаваньне й зьмяншэньне ўсіх збройных сілаў і ўсяго ўзбраеньня». Вышынскі свой праект назваў «Мерапрыемствамі дзеля перамаганьня небясьпекі новай сусьветнай вайны й узмацненьня міру й прыязьні сярод усіх народаў». Мэта быццам тая самая. Але Захад падае запраўдны шлях, які да гэтай мэты можа прывесьці — кантролю й роўнае для ўсіх абмежаваньне збраеньняў коштам часьці собскага сувэрэнітэту. Вышынскі аднак такую кантролю адкідае, бо яна змусіла-б Савецкі Саюз прыпадняць ягоную зялезную заслону. Але некалькі год назад, калі Савецкі Саюз ня меў яшчэ атамнай бомбы, Саветы згаджаліся на такую кантролю пад умовай, што яна абыйме й амэрыканскую прадукцыю атамнае бомбы.

Вышынскі цьвердзіць, што Атлянтычны пакт супярэчыць належаньню ягоных партнэраў да Задзіночаных Нацыяў, але забываецца пры гэтым, што камінформ быў створаны перад Атлянтычным пактам. Захад запрапанаваў спатканьне вялікай чацьвёркі дзеля дасягненьня адпружаньня міжнароднай сытуацыі. Замест такога спатканьня Вышынскі дамагаецца заключэньня пакту міру пяці гаспадарстваў з удзелам камуністычнага Кітаю, таго Кітаю, які ў Карэі вядзе агрэсыўную вайну супраць гаспадарстваў, што мелі-б прыняць удзел у гэтым пакце. Вышынскі дамагаецца безадкладнага спыненьня ваенных дзеяньняў у Карэі й адцягненьня фронту на 38 паралелю ў той час, калі камісыя дзеля перамір'я прыходзіць да згоды ў справе вызначэньня дэмаркацыйнай лініі. Ён дамагаецца далей на працягу трох месяцаў вываду з Карэі ўсіх чужых збройнах сілай уключна зь кітайскімі «ахвотнікамі» ў той час, калі гэтых кітайскіх «ахвотнікаў» ніяк нельга адрозьніць ад чырвоных карэйцаў і калі збройныя сілы ЗН мусілі-б аддаліцца на цэлыя тысячы кілямэтраў, а ўзброеныя савецкім аружжам кітайскія масы знаходзіліся-б на самай карэйскай граніцы.

### Усе масты спаленыя

Апошняя заява Вышынскага, у якой ён адкінуў мірную прапанову Захаду й выставіў свае дамаганьні, прыняцьце якіх абазначала-б поўную палітычную й мілітарную капітуляцыю Захаду, зьяўляецца вельмі вымоўнай і ў сваіх будучых выніках, на якія чакаць доўга ня прыдзецца, вельмі далёка ідучай. Яна абазначае, што Савецкі Саюз перакрэсьлівае ўсякія магчымасьці разладаваньня міжнароднага напружаньня, што Крэмль сьвядома й наважана пастанавіў спаліць усе масты, які маглі-б прывесьці хоцьбы навет да частковага паразумленьня, што панурая здань новай сусьветнай вайны няўхільна завісла над сьветам.

А на бліжэйшую мэту гэта абазначае, што Захад будзе змушаны яшчэ больш прысьпешыць свае абаронныя прыгатаваньні й яшчэ павялічыць і так ужо калясальныя тэмпы збраеньняў.

Заходняя прэса асьмельваецца навет цьвердзіць, што цяперашняя генэральная сэсыя ЗН ужо скончылася ў сваім пачатку. Ня гледзячы на тое, што на парадку дня гэтае сэсыі стаіць каля 80 розных пытаньняў, на разьвязаньне якіх нармальна патрэбна было-б некалькі месяцаў часу, аснаўныя аднак пытаньні, якія арганічна вяжацца із справай узаемадачыненьняў Захаду й Усходу, успомненай заявай Вышынскага, былі ўжо «разьвязаныя».

Апошняя заява Вышынскага можа аднак будзе мець і адзін добры вынік. Можа заходні сьвет перастане ўжо цешыць сябе надзеяй, што, а ну-ж, яшчэ неяк удасца паразумецца з Саветамі й прынамсі хоць адцягнуць мамэнт генэральнай пробы сілаў, можа ўжо пакіне пляны шуканьня новых спатканьняў із Сталінам, у чым толькі паніжае сваю годнасьць і прысыпляе пачуцьцё няўхільнай небясьпекі сярод сваіх масаў. Бо на праект францускага прэзыдэнта Орыёля й ангельскага прэм'ера Чэрчыля перагавораў із Сталінам, Вышынскі ня двузначны даў ужо адказ.

**Алесь Крыга**

**Чытайце й пашырайце беларускую незалежніцкую газэту «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

**Складайце ахвяры на Выдавецкі Фонд**

# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:**
   Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
   **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
   Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:**
   Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunsvick, N. J., U. S. A.
5. **У Канадзе:**
   Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
   Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
   Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
   Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
   Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonsc, Mosgiel, New Zeeland.

**Непасрэдна з гэтых прадстаўніцтваў просім суродзічаў выпісваць «Бацькаўшчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

1. ЗША . . . . . . . 15 цэнтаў
2. Канада . . . . . . . 15 цэнтаў
3. Вялікабрытанія . . . 1 шылінг
4. Францыя . . . . . . 40 франкаў
5. Аўстралія . . . . . . 1 шылінг
6. Аргентына . . . . . . 2 пэзо.
7. Бэльгія . . . . . . 5 франкаў

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

**Mr. Jan Zaprudnik,
19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі або ініцыяламі аўтараў, могуць выражаць думкі, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**

**Кругловых Федора Федоровича** и Варвару Сергеевну разыскивает Ольга Тихоновна Кудинова. Сообщать по адресу редакции «Голоса Народа».

**Побежимова Федора Николаевича** разыскивает отец. Знающих о его местопребывании и судьбе просят сообщить редакции «Голоса Народа».